# НЯХАЙ ЖЫВЕ 1 МАЯ!

## У НУМАРЫ




# Ніва

БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 18 (844) ГОД XVII БЕЛАСТОК 30 КРАСАВІКА 1972 г. ЦАНА 60 гр.


ДА VII З'ЕЗДУ БГКТ

## КАНФЕРЭНЦЫЯ ГАЙНАЎЦЫ

26 сакавіка г.г. адбылася VII справаздачна-выбарная канферэнцыя гайнаўскага аддзела нашай арганізацыі.

У канферэнцыі прынялі ўдзел: В. Паскробка — арганізацыйны сакратар КП ПАРП у Гайнаўцы, У. Сцепанюк — сакратар прапаганды КП ПАРП у Гайнаўцы, А. Рачкевіч — намеснік старшыні Прэзідыума ПРН у Гайнаўцы, А. Несцяровіч — прадстаўнік аддзела ўнутраных спраў Прэзідыума ВРН у Беластоку, Я. Зенюк — сакратар ГП БГКТ, М. Ангельчык — кіраўнік аддзела культуры Прэзідыума ПРН у Гайнаўцы, Я. Казлоўскі — старшыня павятовага праўлення ЗМВ у Гайнаўцы, запрошаныя госці.

Вяла канферэнцыю вядомая на Гайнаўшчыне актывістка БГКТ, старшыня ГРН у Белавежы — Н. Даніловіч.

Аб папулярнасці нашай арганізацыі на Гайнаўшчыне, аб яе вялікім значэнні ў грамадскім жыцці сёл і мястэчак Гайнаўскага павету сведчылі накіраваныя ў адрас канферэнцыі тэлеграмы ад грамадскіх камітэтаў ПАРП і ЗСЛ, гурткоў ЗМВ і БГКТ. Тэлеграмы з пажадан-

Працяг на стар. 4



*На выстаўцы беларускай кнігі была багата прадстаўлена грамадска-палітычная літаратура.*

## СВЯТА БЕЛАРУСКАЙ КНІГІ



*Выстаўку адкрыў тав. Здзіслаў Куроўскі — I сакратар Ваяводскага камітэта ПАРП.*

У выставачную залу Ваяводскай камісіі прафсаюзаў у Беластоку прыбыў па жаданы ў нас госць — беларуская кніга. Міжнародную выстаўку выдавецтваў Беларускай ССР у нашым горадзе арганізавалі Усесаюзнае таварыства «Міжнародная кніга» СССР і Дзяржаўны камітэт Савета Міністраў БССР па друку сумольна з польскім прадпрыемствам «Дом кнігі».

На ўрачыстае адкрыццё выстаўкі 11 красавіка бягучага года прыбылі: Здзіслаў Куроўскі — I сакратар Ваяводскага камітэта ПАРП, Зыгмунт Спрыха — старшыня Прэзідыума ВРН, Рышард Пацяркоўскі — прадстаўнік аддзела прапаганды, друку і выдавецтваў ЦК ПАРП, Эўгэніюш Златажынскі — сакратар ВК ПАРП, прадстаўнікі «Міжнароднай кнігі» на чале з Уладзімірам Багданавым, Казімеж Маяровіч — галоўны дырэктар аб'яднання кніжных выдавецтваў, Леанід Саслоўскі — прадстаўнік Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў БССР па друку, вялікая колькасць наведвальнікаў выстаўкі.

Ролю кнігі ў набліжэнні народаў, абмене навуковымі здабыткамі і грамадскімі думкамі, а таксама ў агульным развіцці культуры падкрэслілі ў сваіх выступлен-

(Працяг на стар. 3)

## БГКТ ХРОНІКА

■ 9 красавіка ў Гаркавічах на Сакольшчыне ў мясцовым клубе адбыўся ўрачысты сход гэтай вёскі, прысвечаны 90 гадавінам з дня нараджэння вялікіх беларускіх пісьменнікаў Янкі Купалы і Якуба Коласа. Прысутных павітала Галя Лотыш, а Яўгень Кішкель расказаў аб тым, што Беларускае таварыства, а ў тым ліку і гаркавіцкі гурток БГКТ, сёняшнім урачыстым сходам распачынае святкаванне спамянутых гадавін. Затым сакратар сакольскага аддзела БГКТ Ірэна Аношка прачытала абшырны даклад аб жыцці і творчасці Янкі Купалы і Якуба Коласа. Моладзь Гаркавіч у беларускіх народных касцюмах выступіла з мантажом, аснованым на творчасці Янкі Купалы (мантаж гэты падрыхтаваў камітэт святкавання 90 гадавіны Янкі Купалы і Якуба Коласа, які створаны быў у мінулым годзе Галоўным праўленнем БГКТ). Цікава праходзіў конкурс, які складаўся з пытанняў на дзве тэмы: а) пытанні з жыцця і творчасці Янкі Купалы і Якуба Коласа; б) пытанні па сельскай гаспадарцы. У часе перапынкаў арганізатары ўрачыстасці ўключылі грампласцінку з песнямі беларускага спевака Міхася Суміцкага. У клубе была таксама арганізавана выстаўка твораў Янкі Купалы і Якуба Коласа. Пасля ўсіх гэтых мерапрыемстваў распачалася забава, на якой весела гуляла моладзь Гаркавіч і прадстаўнікі моладзі з суседніх вёсак.

■ Новы прэзідыум беластоцкага павятовага праўлення БГКТ пад старшынствам Я. Цялушэцкага 13 красавіка правёў сваё першае пасяджэнне. Парадак дня складаўся з наступных пунктаў: 1) разгледжанне прапаноў справаздачна-выбарнай канферэнцыі, 2) ацэнка конкурсу на беларускую песню, арганізаванага аддзелам, 3) справы, звязаныя з арганізаваннем купалаўскай ночы сумольна з павятовым праўленнем Саюза сацыялістычнай моладзі. Пасля пасяджэння ўсе ўдзельнікі яго пайшлі наведаць выстаўку беларускай кнікі, якая была адкрыта 11 красавіка ў памяшканні прафсаюзаў.

■ 16 красавіка ў памяшканні ГП адбыўся фінальны конкурс на беларускую песню, аб якім у наступным нумары «Нівы» будзе змешчана абшырная публікацыя.

# ◇ Падзеі ◇ Здарэнні ◇ Факты ◇ Каментарыі ◇ Весткі



## СВЕТ

### ТЭЛЕФОННАЯ СТАНЦЫЯ

У чэшскай Празе распачалася пабудова найвялікшай у сярэдняй Еўропе тэлефоннай станцыі.

Станцыя будзе пабудавана пры дапамозе Савецкага Саюза і іншых сацыялістычных краін у рамках міжнароднай сістэмы касмічнай сувязі — «Інтэрспутнік». Заканчэнне будовы станцыі прадбачана на 1980 год.

### УЗНАГАРОДЫ НОБЕЛЯ

Нобелеўскія прэміі, якія прызнаюцца кожны год у галіне літаратуры, медыцыны, хіміі, фізікі і эканоміі, выплачваюцца з фундацыі Нобеля. За кожным разам велічыня прэміі акрэсліваецца ў залежнасці ад прыбытку, які прыносіць фонд фундацыі. Велічыня сёлетняй прэміі — 480 тыс. карон або 97 тыс. доларaў.

### КОЛЬКАСЦЬ СКЮ

У Белградзе апублікаваны афіцыйныя даныя адносна колькасці Саюза камуністаў Югаславіі. У канцы мінулага года СКЮ складаўся з 1.025.476 членаў. У 1972 годзе ў рады СКЮ прынята 47.606 новых членаў, а выключана з радоў Саюза 6.813 дагэтуляшніх членаў.

### НОВАЯ КАНСТЫТУЦЫЯ ВЕНГРЫІ

Сесія Народнай палаты Венгерскай Народнай Рэспублікі пасля дыскусіі аднагалосна прыняла тэкст новай канстытуцыі ВНР з унесенымі папраўкамі. Апрача таго, прыняты таксама закон аб ахове здароўя.

### АТАМНЫЯ ЭЛЕКТРАСТАНЦЫІ АРЕ

Арабская Рэспубліка Егіпет вырашыла пабудаваць у новым 10-гадовым плане дзве атамныя электрастанцыі, магутнасць якіх 400 мегаватаў кожная.

Прадбачваецца, што да 1979 года адна з электрастанцый распачне сваю працу.

### ОПІУМ

Кітайская Народная Рэспубліка экспартуе ў год 2 тысячы тон опіуму. Гэтая колькасць больш чым у два разы перавышае афіцыяльнае сусветнае запатрабаванне на гэты сродак (да прадукцыі лякарстваў, якія суцішаюць боль). Гэты экспарт дае Кітаю прыбытак каля 200 мільёнаў фунтаў стэрлінгаў. Такія даныя прыводзіць брашура, выдадзеная ў Англіі.

### БАРАЦЬБА ЧЫГУНАЧНІКАЎ

Барацьба англійскіх чыгуначнікаў за павышэнне аплаты працы набывае ўсё больш востры характар. Нягледзячы на ўсё большы націск і запалохванне з боку ўрада і буржуазнай прэсы, яны працягваюць так званую «работу па правілах» — своеасаблівую форму забастовачнай барацьбы.

### КОШТ ЖЫЦЦЯ

Расце кошт жыцця ў Аўстраліі. Асабліва рэзка ўзняліся за апошні час цэны на хлеб і іншыя харчовыя тавары. Паводле афіцыйных даных, за перыяд з сакавіка 1971 года па сакавік 1972 года рознічныя цэны ў цэлым па краіне выраслі на 6,8 працэнта. (АК)



## БССР

### М. ТАНК — АКАДЭМІК

У выніку выбараў у Акадэмію навук БССР, правадзейным членам Акадэміі быў выбраны народны паэт Беларусі Яўгеній Іванавіч Скурко (Максім Танк). Пры гэтай нагодзе варта прыпомніць, што таленавіты беларускі пясняр нарадзіўся ў 1912 годзе ў беднай сялянскай сям'і, якая жыла ў вёсцы Пількоўшчына на Маладзечаншчыне; што да 1939 года ён шчыра і заўзята змагаўся ў Камуністычным саюзе моладзі Заходняй Беларусі за нацыянальнае і сацыяльнае вызваленне беларусаў ад прыгнёту пілсудчыкаў; што ў пасляваенны перыяд стаў ён выдатным грамадскім і дзяржаўным дзеячом БССР. Яго імя шырока вядома за межамі Беларусі, у тым ліку і ў Польшчы.

### ПЕРАДАВЫ

Калгас «Звязда» знаходзіцца ў Навагрудскім раёне. Ён славіцца на ўсю Беларусь сваімі рэкорднымі ўраджаямі. У мінулым годзе калгаснікі «Звязды» сабралі 45 цэнтнераў збожжа з кожнага гектара. Аднак гэта толькі сярэдні паказчык для ўсяго калгаса. Здаралася, што ў паасобных звеннях намалочвалі яшчэ больш. Вось звяно Віктара Стасевіча магло пахваліцца наступным ураджаем: 51,4 цэнтнера збожжа, 290 — бульбы, 450 — цукровых буракоў, 540 — іншых карэняплодаў.

### ВЫШЭЙ ПАД ХМАРЫ

Гарады Беларусі пастаянна змяняюць свой воблік. Напрыклад, у старынным Гомелі будаўнікі пачалі ўзводзіць самы высокі ў гэтым горадзе 12-павярховы будынак, у якім неўзабаве размесціцца філіял Кіеўскага інстытута «Гіпрасельмаш». У Гомельскім філіяле будуць адпрацоўваць праекты на будаўніцтва новых і рэканструкцыю існуючых прадпрыемстваў сельскагаспадарчага машынабудавання.

### ПЯКАРНЯ Ў ГЛЫБОКІМ

45 тон хлеба і булак будзе выпускаць у суткі поўнасцю механізаваная пякарня, якую распачалі ўжо будаваць у Глыбокім. Да глыбоцкага хлеба ў працэсе яго вытворчасці рука чалавека амаль не будзе дакранацца. Крыху шкада, што гэты вельмі важны калісьці сямейны занятак, вакол якога ў беларускім народзе нарасло шмат звычаяў і абрадаў, страціў ужо сваю таямнічасць і паэтычнасць.

### БЕЛАРУСКА-ЛІТОЎСКІ ПОМНІК

На граніцы Беларусі і Літвы будзе ўзведзены помнік для ўвекавечання сумеснай барацьбы беларускага і літоўскага народаў супраць фашысцкіх захопнікаў у гады Вялікай Айчыннай вайны.

### БАБРУЙСКІ «ЦЕРАМОК»

Нядаўна ў Бабруйску адкрыла шырока дзверы для сваіх гасцей новая сталовая, якую назвалі «Церамок». Яна аформлена на манер старадаўняй сялянскай хаты. Усе хваляць яе кухню і ветлівасць абслугі. (вр)



## ПОЛЬШЧА

### ПАСЯДЖЭННЕ ПАЛІТБЮРО ЦК ПАРП

18 красавіка г.г. адбылося пасяджэнне Палітбюро ЦК ПАРП, на якім была абмеркавана і прынята праграма святкавання 50 гадавіны ўтварэння СССР. Палітбюро абмеркавала таксама актуальнае становішча і перспектывы далейшага развіцця польска-французскіх палітычных і гаспадарчых адносін, а таксама парадак ратыфікацыі дагавору між Польшчай і Германскай Федэральнай Рэспублікай. У заканчэнні пасяджэння Палітбюро разгледзела і прыняло пастанову аб далейшым умацаванні ролі і пазіцыі «Трыбуны Люду» — органа ЦК ПАРП.

### ПАСЯДЖЭННЕ РАДЫ МІНІСТРАЎ

21 красавіка г.г. адбылося пасяджэнне Рады Міністраў, на якім прынята шэраг рашэнняў наконт рэалізацыі надзённых гаспадарчых задач. На пасяджэнні абмеркаваны таксама вынікі працы камісіі, якая даследуе падрыхтоўку інвестыцый да пабудовы, і інфармацыя аб замежным гандлі.

### СУСТРЭЧА СТАРШЫНІ РАДЫ ДЗЯРЖАВЫ

17 красавіка г.г. старшыня Рады Дзяржавы прафесар Г. Яблонскі правёў сустрэчу з Прэзідыумам Польскай акадэміі навук. Тэмай сустрэчы была падрыхтоўка да кангрэса польскай навукі і праблемы навуковых кадраў.

* ✲ *

19 красавіка г.г. старшыня Рады Дзяржавы правёў сустрэчу з шэфамі дыпламатычных пляцовак, акрэдытаваных у Польшчы, і прыняў ад іх віншаванні ў сувязі з выбраннем яго на пасаду старшыні Рады Дзяржавы.

### НАРАДА Ў ЦРЗЗ

Нядаўна адбылася нарада ЦРЗЗ, якая прысвячалася напрамкам далейшай працы прафсаюзаў, а перш за ўсё павелічэнню жыллёвага будаўніцтва. Пільнай задачай у сучасны момант з'яўляецца выкарыстанне ўсіх рэзерваў для павелічэння прадукцыі будаўнічых матэрыялаў і лепшага выкарыстання часу на ўсіх будовах.

### УРАЧЫСТЫ КАНЦЭРТ

20 красавіка г.г. адбыўся ў Варшаве ўрачысты канцэрт у сувязі са святкаваннем 27-ай гадавіны падпісання Дагавору аб супрацоўніцтве і ўзаемнай дапамозе між Польшчай і Савецкім Саюзам. На ўрачыстасці з прамовамі выступалі: член Палітбюро ЦК ПАРП і віцэ-прэм'ер Юзэф Тэйхма і пасол СССР у Польшчы С. Пілатовіч.

### ПЛЕНУМ ГАЛОЎНАЙ РАДЫ ЗГП

23 красавіка г.г. адбыўся пленум Галоўнай Рады Саюза польскіх гарцэраў (ЗГП), які прысвячаўся важнейшым задачам гарцэрства на 1972—73 гады і перадз'ездаўскай кампаніі да V з'езду ЗГП. Пленум абмеркаваў таксама пытанні ўдасканальвання метадаў выхаваўчай дзейнасці сярод дзяцей і моладзі. (яц)



## ВАЯВОДСТВА

### У ГАДАВІНУ ДАГАВОРУ

У сувязі з 27-ай гадавінай падпісання Дагавору аб дружбе, супрацоўніцтве і ўзаемадапамозе паміж Польшчай і СССР у Беластоку адбыўся ўрачысты вечар. Прысутнічалі на вечары члены экзекутывы ВК на чале з I сакратаром ВК партыі З. Куроўскім, члены прэзідыума ВРН са старшынёй З. Спрыхам, прадстаўнікі палітычных, грамадскіх і маладзёжных арганізацый.

У мастацкай частцы выступілі лаўрэаты конкурсаў савецкай песні.

### КАНФЕРЭНЦЫЯ ЗМС

22 і 23 красавіка ў Беластоку адбылася чарговая, IX ваяводская справаздачна-выбарная канферэнцыя ЗМС. Госцьмі на маладзёжнай канферэнцыі былі I сакратар ВК партыі З. Куроўскі, старшыня прэзідыума ВРН З. Спрыха, віцэ-старшыня Галоўнага праўлення ЗМС А. Майкоўскі, а таксама прадстаўнікі асветных улад, братніх арганізацый.

Праблемы моладзі дыскутаваліся ў сямі праблемных калектывах. Моладзь складала рапарты аб працы, зробленай грамадскім чынам. Заслужаныя дзеячы маладзёжнага руху атрымалі ўзнагароды і дыпломы. У выніку выбараў новых улад ваяводскай арганізацыі ЗМС старшынёй застаўся В. Заслона. Былі выбраны таксама дэлегаты на V з'езд ЗМС.

### НЯДЗЕЛЯ ЧЫНАЎ

Нядзеля 23 красавіка, як і папярэдняя, была ў Беластоку нядзеляй працы грамадскім чынам. Моладзь ЗМС парадкавала ўзгорак Магдалены, моладзь розных школ працавала пры ўпарадкаванні беластоцкіх паркаў і жыллёвых раёнаў. Моладзь выйшла працаваць у нядзелю таксама і ў іншых мясцовасцях Беласточчыны.

### ДЗЕНЬ ТЭКСТЫЛЬШЧЫКА

23 красавіка адбылася ўрачыстая акадэмія, прысвечаная Дню тэкстыльшчыка. Беластоцкія тэкстыльшчыкі могуць пахваліцца значнымі дасягненнямі: прадукцыйныя планы 1971 года былі выкананы раней тэрміну, у рамах з'ездаўскага чыну тэкстыльшчыкі далі дадатковай прадукцыі на 61 млн. зл., а ў акцыі «20 мільярдаў» абавязаліся даць дадатковай прадукцыі на суму 35 млн. зл. Лепшыя працаўнікі тэкстыльнай прамысловасці атрымалі дзяржаўныя ўзнагароды. (яч)

**Instytut Filologii Rosyjskiej**
**Uniwersytetu Warszawskiego**
**zawiadamia, że w roku akadem. 1972/73**
**zostało otwarte**

## STUDIUM ZAOCZNE
## FILOLOGII BIAŁORUSKIEJ

Podanie o przyjęcie na studia można składać w dniach od 15 kwietnia do 15 maja 1972 r.

O przyjęcie na studia mogą się ubiegać osoby mające świadectwo dojrzałości oraz dwuletni staż pracy.

Do podania o dopuszczenie do egzaminu wstępnego należy dołączyć: skierowanie z miejsca pracy, oryginał świadectwa dojrzałości, własnoręcznie napisany życiorys, odpis pierwszych dwóch stron dowodu osobistego potwierdzony przez zakład pracy, kwestionariusz osobowy, zaświadczenie lekarskie stwierdzające, że kandydat może łączyć studia z pracą zawodową, trzy fotografie.

Podania wraz z załącznikami należy przesyłać pocztą pod adresem: Studium Zaoczne Filologii Białoruskiej, Warszawa, ul. Smyczkowa 5/7, lub składać osobiście w sekretariacie przy ul. Smyczkowej 5/7, pok. 11.

Sekretariat przyjmuje interesantów w sprawie rekrutacji codziennie w godz. 9—15, soboty godz. 14—17.

Egzamin wstępny rozpocznie się dnia 3 czerwca br. i będzie składał się z egzaminu pisemnego z literatury białoruskiej oraz egzaminu ustnego z języka białoruskiego i literatury polskiej z elementami gramatyki jęz. polskiego.

Studia na Studium Zaocznym Filologii Białoruskiej wraz z filologią rosyjską jako przedmiot poboczny trwają pięć lat, absolwenci otrzymują dyplom magistra filologii białoruskiej.

K 1631-1




**NIEDZIELA 30. IV. 72**
7.55 Program dnia. 8.00 TV Kurs Rolniczy: „Zoohigiena pomieszczeń inwentarskich”. 8.55 „Przypominamy, radzimy”. 8.45 „Radar”. 9.00 TV Klub Śmiałych. 10.15 „Świat, który nie może zginąć”. 10.45 Sprawozdawczy magazyn sportowy. W przerwie ok. 12.00 Dziennik. 13.15 „Przemiany”. 13.45 Dla dzieci: Teatrzyk dla Przedszkolaków — A. Chodorowska „Gość z daleka” (na motywach bajki L. Krzemienieckiej). 14.25 Reportaż. 15.00 Estrada Literacka: W. Broniewski — „Wisła”. 15.45 „Moje ulubione lektury” — teleturniej. 16.35 PKF. 16.45 „W starym kinie”. 17.45 „Z bukietem kwiatów w majowe święto”. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.00 „Człowiek z Rio” — film fab. franc.-włoski. 21.55 „To było w maju” — występ Centralnego Zespołu Artystycznego Wojska Polskiego. 22.40 Magazyn sportowy.

**PONIEDZIAŁEK 1. V. 72**
7.50 Program dnia. 7.55 Sprawozdanie z manifestacji 1-Majowej w kraju i zagranicą. 13.20 Koncert muzyki polskiej. 14.00 Dla dzieci: B. Aprikow „Pięć małych pingwinów”. Widowisko Państwowego Teatru Lalek „Pleciuga” w Szczecinie. 15.00 „Cała naprzód” — gra i śpiewa Zespół „Orera”. 16.00 Mistrzowie Techniki 1971 — sylwetki laureatów konkursu „Życie Warszawy”. 16.30 Międzynarodowy mitting lekkoatletyczny z okazji Święta 1 Maja. Sprawozdanie ze stadionu RKS „Skra” w Warszawie. 17.30 Polonia na świecie. 18.00 „Autobus z napisem „Koniec”. 18.35 Film muzyczny TVP: Premiera miesiąca „3 + 1” („Novi Singers”). 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 Teatr TV: S. Fleszarowa-Muskat „Korzeń, łodyga, kwiat”. 21.35 „Muzyka lekka, łatwa i przyjemna”. 22.25 Magazyn Sportowy.

**WTOREK 2. V. 72**
9.40 „Sprawa jasnowidza Hanussena” — cz. III — fabul. film czechosł. 10.55 Dla szkół: kl. III lic. — Język polski — Witkacy „W małym dworku”. 12.45 Przysposobienie Rolnicze: „Pomieszczenie dla trzody chlewnej”. 15.20 i 22.40 Politechnika TV — rok I. Matematyka. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 „Profile kultury na wsi”. 17.10 Oferty. 17.30 Ekran Młodych. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Sprawa jasnowidza Hanussena” — cz. II — film fabul. czechosł. 21.15 Duet fortepianowy. 21.40 „Dysk i pióra”. 22.40 Dziennik.

**ŚRODA 3. V. 72**
9.55 Dla szkół: kl. VIII Historia „Polska Rzeczpospolita Ludowa”. 10.25 „Wiktoryna” — premierowy film TVP. 12.45 Dla szkół: kl. VIII Chemia „Ceramika”. 13.40 Wybieramy zawód. 15.20 i 22.35 Politechnika TV — Kurs przygotowawczy. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Dla młodych widzów: „Kino z komentarzem” i film seryjny „Ludzie z różnych stron świata”. 17.30 „Opolski Płock”. 18.00 „Życie społeczne owadów” („Poznajmy przyrodę”) — film włoski. 18.20 Kurier Warszawski. 18.40 „Dialogi historyczne”. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 „Wiktoryna” — premierowy film TVP. 21.00 Świat i Polska. 21.30 PKF. 21.40 Jan Sebastian Bach „Kantata chłopska”. 22.10 Dziennik. Wiadomości sportowe.

**CZWARTEK 4. V. 72**
8.15 Matematyka w szkole: „Wstęp do teorii informacji” cz. I. 9.00 Dla szkół: kl. I lic. — Język polski — „Poezja polskiego Oświecenia”. 9.55 Dla szkół: kl. II lic. Język polski. „Bolesław Prus”. 12.45 Dla szkół: kl. VIII. Język polski. „Władysław Broniewski”. 15.20 i 22.55 Politechnika TV — rok I. Fizyka. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 „Ekran z bratkiem”. 17.40 Magazyn ITP. 17.55 „Poligon”. 18.25 Kurier Białostocki. 18.45 „Błękitna wyspa Atlantyku” („Morskie spotkania”). 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.00 Przypominamy, radzimy. 20.10 „Zbrodniarz, który ukradł zbrodnię” — film fabul. polski. 21.45 „Baza ludzi żywych”. 22.15 Dziennik. 22.30 Przed XXV Wyścigiem Pokoju.

**PIĄTEK 5. V. 72**
8.00 Telewizyjny Kurs Rolniczy dla agronoma i zootechnika: „Unowocześnienie pomieszczeń gospodarskich”. 9.00 Dla szkół: kl. VII — Zajęcia techniczne — „Technika w domu”. 9.30 „Odejście Smike'a — XII odc. telewiz. filmu ang. „Nicholas Nickleby”. 10.00 „Zbrodniarz, który ukradł zbrodnię” — film fabul. polski. 11.55 Dla szkół: kl. VII—VIII — Wychowanie plastyczne — „Wzornictwo przemysłowe”. 12.45 Dla szkół: kl. II—III lic. — Przysposobienie obronne — „Działanie służby medyczno-sanitarnej w rejonie porażenia”. 15.20 i 22.35 Politechnika TV — rok I. Fizyka. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Dla dzieci: „Pan Półka i Spółka”. 17.30 Nie tylko dla pań. 17.50 Magazyn Medyczny. 18.20 Kurier Mazowiecki. 18.40 „Gramy o telewizor” — teleturniej. 19.05 „Turystyka i wypoczynek”. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.00 XXV Wyścig Pokoju. Sprawozdanie z I etapu (Berlin). 20.15 „Odejście Smike'a” XII odc. telewiz. filmu ang. „Nicholas Nickleby”. 21.00 D.c. sprawozdania z I etapu XXV Wyścigu Pokoju. 21.15 „Kraj”. 21.55 D. c. sprawozdania z I etapu XXV Wyścigu Pokoju. 22.15 Dziennik.

**SOBOTA 6. V. 72**
9.00 Dla szkół: kl. V. Geografia. „Ruch wirowy ziemi”. 9.55 Dla szkół: kl. VI. Geografia. „Wybrzeże Gdańskie”. 10.30 Film fabularny. 11.55 Dla szkół: kl. VIII. Geografia. „Przemysł okrętowy”. 15.05 Program dnia. 15.10 Program I proponuje. 15.30 Redakcja Szkolna zapowiada. 15.40 Telewizyjny Informator Wydawniczy. 16.10 Dziennik. 16.20 XXV Wyścig Pokoju — Sprawozdanie z zakończenia II etapu (Berlin). 17.30 Dla młodych widzów: III Turniej Wiedzy Społecznej ZHP „Zielona księga”. 18.30 „Pegaz”. 19.20 Dobranoc. 19.30 Monitor. 20.15 Teatr Rozrywki: „Morderstwo o północy”. Scenariusz J. Fedorowicza. 21.05 Dziennik. 21.25 Kronika Wyścigu Pokoju. Wiadomości sportowe. 21.45 Film fabularny.

*(Працяг са стар. 1)*

# СВЯТА БЕЛАРУСКАЙ КНІГІ

нях Леанід Саслоўскі і Аляксандр Пугацэвіч — дырэктар «Дома кнігі» ў Беластоку.

«Сёння беларуская кніга разыходзіцца па ўсяму Савецкаму Саюзу і даставляецца ў 80 краін свету. Вядома ж, што кніга — гэта самы блізкі прыяцель кожнага чалавека і дзякуючы ёй у нас наладзіліся вузы дружбы з многімі народамі, а перш за ўсё — з польскім народам», — сцвердзіў Л. Саслоўскі, выносячы падзяку польскім таварышам за арганізаванне выстаўкі. Адначасова Л. Саслоўскі паведаміў, што ўвесь кнігазбор, прадстаўлены на выстаўцы, будзе пасля яе закрыцця перададзены Беларускаму грамадска-культурнаму таварыству.

Уладзімір Багданаў у сваім выступленні заўважыў, што выстаўка беларускай кнігі ў Беластоку з'яўляецца першым гэтага роду мерапрыемствам у Польшчы з нагоды Міжнароднага года кнігі. Пры гэтым ён адзначыў, што польскія выдавецтвы карыстаюцца велізарнай папулярнасцю ва ўсім Савецкім Саюзе, а асабліва на Беларусі. Гэтае ўзаемнае зацікаўленне савецкіх і польскага народаў культурнымі здабыткамі сваіх найбліжэйшых суседзяў з'яўляецца адным з яркіх доказаў пачуцця дружбы, якое яднае нашыя народы.


*На выстаўцы прысутнічалі савецкія госці. Злева направа: начальнік Упраўлення кніжнага гандлю Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў БССР па друку Леанід Саслоўскі, Барыс Сёмін з гандлёвага прадстаўніцтва СССР у Польшчы, прадстаўнік Аддзела прапаганды, друку і выдавецтваў ЦК ПАРП Рышард Пацяркоўскі і прадстаўнік «Міжнароднай кнігі» Уладзімір Багданаў.*


*Зрок наведвальнікаў прыцягвала высокае майстэрства беларускіх мастакоў і паліграфічнай прамысловасці.*


*Кожны хацеў набыць беларускае выданне.*

Здзіслаў Куроўскі, адкрываючы выстаўку, ад імя партыйных і дзяржаўных уладаў нашага ваяводства выказаў задавальненне, што экспазіцыя беларускай кнігі арганізавана якраз у Беластоку, дзе савецкі друк і кніга маюць вялікую колькасць чытачоў і любіцеляў.

На густоўна афармленых стэлажах у выставачнай зале знаходзіцца каля 600 выдавецкіх пазіцый, якія ў апошнія гады выйшлі з беларускіх друкарань. Наведвальнікам прыемна пазнаёміцца з вялікім майстэрствам беларускіх выдаўцоў і дасягненнямі іх паліграфіі. Прыцягваюць увагу сваім высокім мастацкім і тэхнічным узроўнем кнігі па прыродазнаўству і краязнаўству, творы класікаў беларускай літаратуры, кнігі для дзяцей і моладзі.


*Выстаўка густоўна аформлена і багата аздоблена.*

Вядомы ў Беларусі мастак і пісьменнік Мікалай Ганчароў мусіў спалучаць дзве функцыі: інфармаваць наведвальнікаў аб працы мастакоў-ілюстратараў беларускіх выданняў і складаць шматлікія аўтографы на ўласных кнігах, якія вельмі ахвотна набывалі наведвальнікі выстаўкі.

Міжнародная выстаўка беларускай кнігі ў Беластоку выклікала жывое зацікаўленне ў жыхароў нашага горада і ваяводства. Наведваюць яе прыбываючы беластачане, экскурсіі са школ, маладзёжных арганізацый, прадпрыемстваў. І амаль кожны наведвальнік не адыходзіць, не набыўшы хаця б аднаго з амаль 140 найменаванняў кніг, якія прадаюцца на выстаўцы.

Выстаўка — сапраўднае свята беларускай кнігі ў Беластоку.

*Ігнат Снарскі*
*Фота: Раман Сянько*

*Мікалай Ганчароў ахвотна даваў аўтографы наведвальнікам.*

# Гайнаўская малачарня

Аб такім прадпрыемстве, як малачарня, можна гаварыць і ацэньваць яго на падставе вынікаў, атрыманых на працягу года. Таму, прадстаўляючы дзейнасць акруговай малачарскай спулдзельні ў Гайнаўцы, будзем ніжэй спасылацца на даныя з 1971 года і будзем параўноўваць іх з данымі 1970 года. Каб належна ацаніць дасягненні за мінулы год, трэба прымаць пад увагу той факт, што ў 1971 годзе панавала суша, якая зрабіла некарысны ўплыў на ўраджай многіх сельскагаспадарчых культур, а гэта ў сваю чаргу мела некарысны ўплыў на развіццё жывёлагадоўлі. Але нягледзячы на гэта, гайнаўская малачарня дзякуючы добрай арганізацыі працы, дзякуючы самаахвярнасці ўсяго калектыву мае значныя дасягненні.

У 1971 годзе малачарня адкрыла 10 новых пунктаў скупкі малака. У сучасны момант налічваецца на Гайнаўшчыне 80 сталых пунктаў скупкі і 64 зборныя пункты. Такім чынам, усе 147 сялецтваў павету маюць добрыя ўмовы для продажу дзяржаве малака. Малачарня ў мінулым годзе купіла ў сялян 16.189 тыс. літраў малака, гэта значыць, на 249 тыс. літраў больш, як у 1970 годзе. Варта сказаць і аб якасці гэтага прадукту. Малако малаку няроўнае. Не ўсе дастаўшчыкі ў належнай згодзе з высокай гігіенай, не ўсе прыносяць у зляўні малако свежае, з неадцягнутай смятанай з вячэрняга ўдою. Гэтым значна абніжаюць яны тлустасць малака, якая кшталтуецца ў малачарні на ўзроўні 3,7 працэнта. Дык шырока прапагандуецца тут гігіена сярод дастаўшчыкаў малака і работнікаў спулдзельні.

Вартасць прадукцыі акруговай малачарскай спулдзельні ў Гайнаўцы акрэслівaецца сумай 70.507 тыс. зл. і была вышэйшая ў параўнанні з планам на 4.099 тыс. зл. Найбольш прадукуе малачарня сыра і масла. Па прадукцыі сыра малачарня ў мінулым годзе выканала план у 102 працэнтах, гэта значыць, звыш плана дала 8,6 тон сыра. Значна ўзрасла прадукцыя сыра высокай якасці. У 1970 годзе малачарня дала сыра са знакам якасці Q 99,7 тон, а ўжо ў 1971 годзе 150,9 тон. Гайнаўская малачарня прадукуе таксама шмат масла са знакам Q, шмат адпраўляе яго на экспарт. Цікавай галіной прадукцыі з'яўляецца і парашок з малака. У мінулым годзе на план 554 тоны выпрадукавана 636,5 тон.

Як вядома, малако і прадукты з малака ў штодзённым харчаванні насельніцтва займаюць значнае месца. У мінулым годзе малачарня дала насельніцтву двухпрацэнтнага і больш як трохпрацэнтнага малака 1.165.697 літраў. Малачарня за мінулы год значна перавыканала продаж насельніцтву малака ў бутэльках, продаж смятаны, кефіру, маслянкі і тварагу. Што датычыць тварагу, дык і на вёсцы ён становіцца папулярным: сяляне купляюць яго ўсё больш у малачарскай спулдзельні.

У Гайнаўскім павеце жыве 59273 асобы. Паводле дадзеных акруговай малачарскай спулдзельні, у 1971 годзе на адну асобу (і ў горадзе і на вёсцы) было прададзена малочных прадуктаў: малака — 19,6 літра, сыра цвёрдага — 0,46 кг., малочных напіткаў — 2,35 літра. Апярэджваюць Гайнаўшчыну толькі такія мясцовасці, як Беласток, Элк і Голдап.

1972 год прынясе яшчэ большыя дасягненні акруговай малачарскай спулдзельні. Відаць гэта ўжо па першым квартале, у якім на планаваных 2950 тыс. літраў малака скуплена 3047 тыс. літраў. Гэта значыць, што план выкананы ў 103,2 працэнта. Добрая праца, дасягненні прадпрыемства залежаць і ад разумнага кіраўніцтва прадпрыемствам, ад добрай арганізацыі працы ўсяго калектыву. Людзям, членам калектыву гайнаўскай малачарні будзе прысвечаны асобны артыкул.

*Міхась Хмялеўскі*

 

*Галіна Лобач (Даміцэля) і Юзэф Пашкевіч (Максім) у пастаноўцы «Прымакі» Янкі Купалы.*

## МІХАЛОЎСКІЯ САМАДЗЕЙНІКІ

Як мы ўжо пісалі, вялікай актыўнасцю выдзяляецца 13-асабовы драмгурток, які дзейнічае пры доме культуры ў Міхалове (Беластоцкі павет). Ставіць ён п'есы на беларускай і польскай мовах. Раней выступаў ён з п'есай «Вываражыла» Ю. Генюша, а ў апошні час падрыхтаваў п'есу «Прымакі» Янкі Купалы.

У гэтай пастаноўцы прымаюць удзел: Ірэна Полех (Кацярынка), Юзэф Пашкевіч (Максім), Павел Гутнік (Трахім), Наташа Савіцкая (Паланея), Галіна Лобач (Даміцэля), Мікалай Канонъчук (Мацейка), Станіслаў Палоцкі (Соцкі) і Яўгень Войчук (ураднік).

*Фота: Я. Цялушэцкі*

---

Асаблівую ўвагу звяртаў аддзел на папулярызацыю ідэй брацкай дружбы і еднасці нашай краіны з СССР. Добра служылі гэтай справе даклады і гутаркі ў Ленінскія дні, гадавіны Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі і Савецкай Арміі. У тры разы болей, чым у папярэднім перыядзе, было наладжана фотавыставак з жыцця СССР і БССР. У школах, клубах і святліцах яны дэманстраваліся 269 разоў і ўсюды ўспрымаліся з вялікім зацікаўленнем.

Кожны нумар «Нівы» ў падпісцы і рознічным продажы «Рухам» разыходзіўся на Гайнаўшчыне ў 1969 г. у 2560 экземплярах, у 1970 г. — 2480 экз., у 1971 г. — 2588 экземплярах.

Гайнаўскі аддзел за мінулыя тры гады прадаў выдавецтваў ГП БГКТ на суму каля 100 тысяч злотых і сабраў 325 экспанатаў матэрыяльнай культуры ў Беларускі этнаграфічны музей у Белавежы.

«Вялікую ўвагу праўленне нашага аддзела звяртала на справу абслугоўвання гурткоў, — адзначыў у дакладзе А. Іванюк. — На працягу трох гадоў адбылося 196 выездаў у гурткі актыву БГКТ і 213 выездаў штатнага працаўніка аддзела. Зрэшты, кантакты праўлення аддзела з гурткамі не толькі павялічыліся колькасна, але — а гэта найважнейшае — узбагаціліся па зместу, формах і сродках».

У сваёй працы гайнаўскі аддзел нашага таварыства бачыць недахопы ва ўсё яшчэ слабым развіцці самадзейнага мастацкага руху, невялікім удзеле гайнаўчан у конкурсах на беларускую песню, надта ж павольным разгортванні дзейнасці гайнаўскага беларускага хору.

Пасля даклада са справаздачай выступіў сакратар рэвізійнай камісіі аддзела М. Кучко. Камісія вельмі высока ацаніла дзейнасць праўлення аддзела за мінулы перыяд і запрапанавала даць яму абсалюторыум.

Дыскусія на канферэнцыі канцэнтравалася вакол найбольш істотных спраў дзейнасці нашай арганізацыі, а таксама працы гайнаўскага аддзела БГКТ. Выступілі ў ёй В. Дзун, К. Грыц, В. Сакоўскі, О. Гарустовіч, А. Сэльвесюк, М. Ангельчык, сакратар ГП БГКТ Я. Зенюк і сакратар КП ПАРП В. Паскробка. Выступаючыя закранулі шэраг вельмі важных праблем. У сувязі з гэтым дыскусіі прысвецім спецыяльны артыкул у наступным нумары «Нівы».

Сярод прынятых канферэнцыяй рашэнняў знаходзяцца вельмі істотныя справы: уключыць у дзейнасць гурткоў БГКТ гаспадарчыя заданні, якія стаяць перад данай мясцовасцю, папулярызаваць конкурсы «Жыхары свайму гораду», «Беластоцкае сяло гаспадарнае і культурнае», «Людзі добрай работы», заахвочваць да здабывання ганаровага звання майстра і прыкладнага гаспадара; звярнуць большую ўвагу на развіццё самадзейнага мастацкага руху на Гайнаўшчыне, забяспечыць лепшае аплочванне членскіх складчын.

Канферэнцыя выбрала 27-асабовае праўленне аддзела і 3-асабовую рэвізійную камісію. Гайнаўшчыну на VII з'ездзе БГКТ будуць прадстаўляць: А. Іванюк, М. Суліма, М. Самоцік, В. Сакоўскі, А. Шчука, С. Бароўскі, В. Дзун, А. Харкевіч, К. Грыц, Г. Тапалянская, Ю. Кіслы, М. Гацута, О. Гарустовіч, Н. Даніловіч, Я. Цівонюк, У. Гайдук, У. Гацута, В. Бура, С. Авэрчук, М. Матысюк, В. Пучко, А. Кучко, А. Баршчэўскі, Я. Зенюк, І. Навіцкі, Л. Леснік, Т. Яўдосюк, А. Крутэль, С. Пракапюк, Н. Манцюк, І. Садоўская, Г. Мірkоўская, М. Трафімюк, В. Асіпюк, М. Чыквін, В. Ляшчынская, А. Самойлік, М. Данілецкая, М. Чыквін, М. Дудар, В. Хіліманюк, Ю. Рашчэнка, А. Сэльвесюк, А. Харкевіч, В. Краўчук, Э. Лясота, А. Ажэхоўскі.

На першым сваім пасяджэнні, якое адбылося ў перапынку канферэнцыі, новае праўленне аддзела выбрала прэзідыум у складзе: А. Іванюк — старшыня аддзела, В. Сакоўскі — намеснік старшыні, В. Бура — сакратар, А. Шчука — скарбнік; членамі прэзідыума выбраны: М. Самоцік, М. Суліма, В. Базылюк, С. Бароўскі і Э. Лясота. Рэвізійная камісія сваім старшынёю выбрала М. Кучко.

У заключным слове А. Іванюк, якога ўжо чацвёрты раз гайнаўская арганізацыя БГКТ выбрала старшынёю аддзела, запэўніў канферэнцыю, што новае праўленне прыкладзе ўсе намаганні, каб наша арганізацыя на Гайнаўшчыне працавала належным чынам.

(мг)

---

На продаж кажуць карміў,
І так даждаўся паста.
Нячысцік знаеш не спаў;
Таму ужо так і быць.
Ён іх задумаў скалаціць,
Пабач што ім зайграў.
Жонку у каршэль на талерку,
Мікіце ў зубы бутэльку:
Буль, буль, буль, буль, буль — і вот
Пайшла сівуха ў рот...»

Нячысцік-д'ябал тым часам не драмаў. Соваў гаспадарам пад нос гарэлку, а сам украў вяпрука і ўрэшце падпаліў хату грэшнага селяніна, які асмеліўся ў пост забіць вяпра і піць гарэлку. Твор гэты цяжка назваць шэдэўрам. І па сваёй форме і па зместу прадстаўляе ён вельмі мізэрныя вартасці. Аўтар-маралізатар, аўтар-пан хацеў настрашыць гэтага селяніна помстамі д'ябла. Але і тут выступае пэўнае наватарства. Нячысцік быў бадай што першай баладай у беларускай літаратуры, і гэта не магло не мець уплыву на форму і мастацкія сродкі твора.

Мы ўжо па сутнасці прадставілі ўсё, што звязвае Рыпінскага з Беларуссю і беларускай літаратурай.

Закончыць хацелася б пачаткам. У пачатку артыкула аб Рыпінскім мы прывялі два выказванні беларускіх літаратуразнаўцаў (Піотуховіча і Мальдзіса) аб Рыпінскім. Піотуховіч лічыў Рыпінскага пісьменнікам тыпова шляхецкім. Мальдзіс прыхіляўся да думкі, што Рыпінскі досыць прагрэсіўны. Варта аднак прывесці яшчэ аднаго беларускага крытыка, Майхровіча, які, разглядаючы постаць Рыпінскага, называе яго рэакцыйным рамантыкам, містыкам, прыгоннікам (Нарысы беларускай літаратуры XIX ст., Мінск 1959 с. 62). Пры нагодзе Майхровіч усыпаў і беларускім нацыяналістам за тое, што хвалілі Рыпінскага.

Ну дык дзе праўда? Кім быў сапраўды Рыпінскі? Рыпінскі чалавек адлеглага часу, дакументаў аб ім нямнога, і таму ўсе вывады маюць перш за ўсё эмацыянальны характар. Дакіньма некалькі сваіх увагаў:

I. Рыпінскі быў чалавекам тыповым для шляхецкага асяроддзя і ніколі супраць гэтага асяроддзя не выступаў.

II. Любіў Беларусь, але толькі як частку Рэчыпаспалітай.

III. Быў, несумненна, унутрана раздвоены і, мабыць, непаслядоўны, але, відаць, ніколі не падумаў, што калі-колечы ўпадзе паншчына і селянін будзе роўны пану.

IV. Беларускасць Рыпінскага вынікала ў большай ступені з розуму, чым з сэрца.

V. Толькі ўмоўна можам залічыць яго ў лік беларускіх пісьменнікаў. Быў верным сынам Рэчыпаспалітай.

VI. З прыведзеных намі крытыкаў, несумненна, найбліжэйшы праўдзе ў ацэнцы Рыпінскага Піотуховіч.

---

# Ф·А·Л·Ь·К·Л·О·Р

### СЯМЕЙНАЯ

ХЛО-ПЭЦ ПО-ЖЭНЬ-КУ ПА-ХА-Е, ОЙ, О-Е-ЁЙ!
Ў Е-ГО СО-ШЭНЬ-КА КРЫ-ВА-Я, ОЙ, БО-ЖЭ МОЙ!

*Хлопэц пожэньку пахае,*
*Ой, о-е-ёй!*
*У его сошэнька крывая,*
*Ой, Божэ мой!*
*Прыйшла дзеўка-чорнабрыўка,*
*Ой, о-е-ёй!*
*Ажанісе, хлопчэ, з гора,*
*Ой, Божэ мой!*
*Хлопэц, дурэнь, ажаніўсе,*
*Ой, о-е-ёй!*
*Навек жонкай удавіўсе,*
*Ой, Божэ мой!*
*Ані ложкі, ані міскі,*
*Ой, о-е-ёй!*

*Павесілі тры калыскі,*
*Ой, Божэ мой!*
*Даў для жонкі тры капейкі,*
*Ой, о-е-ёй!*
*Купі, жонка, хлеба-солі,*
*Ой, Божэ мой!*
*Жонка хлеба не купіла,*
*Ой, о-е-ёй!*
*На базару заблудзіла,*
*Ой, Божэ мой!*
*Хлопэц пожэньку пахае,*
*Ой, о-е-ёй!*
*У его сошэнька крывая,*
*Ой, Божэ мой!*

### ХРЭСЬБІННАЯ

ОЙ, ЧЫ-Я ТО ЧЭ-РЭМ-ШЫН-КА, ОЙ, ЧЫ-Я ТО ВІШ-НЯ?
ОЙ, ЧЫ-Я ТО РО-ДЗІ-НЭНЬ-КА НА ГУ-ЛЯ-НЕ ВЫЙ-ШЛА?

*Ой, чыя то чэрэмшынка,*
*Ой, чыя то вішня?*
*Ой, чыя то родзінэнька*
*На гуляне выйшла?*

*То Мішова чэрэмшынка,*
*То Мішова вішня;*
*То Мішова родзінэнька*
*На гуляне выйшла.*

Ад Марыі Гайдук, 1908 года нараджэння, хутар Полымя, вёска Тарнопаль, Гайнаўскага павету, запісаў 25 лютага 1972 года Мікалай Гайдук. З магнетафоннай стужкі нотны запіс зрабіў Сяргей Лукашук.

---

# АКТЫЎНЫЯ ЖАНЧЫНЫ

Гурткі вясковых гаспадынь (КГВ) маюць зараз не малы ўплыў на развіццё вёсак, а таксама на грамадскую актыўнасць іх жыхарак. Добрай працай выдзяляюцца КГВ у вёсках: Збуч, Чыжы, Кляшчэлі, Навасады (Гайнаўскі павет) і ў Патоцы (Беластоцкі павет). Жанчыны са Збуча ўжо некалькі гадоў падрад садзяць у сябе малавядомую агародніну. У гэтым годзе яны будуць садзіць алеістыя гарбузы. Апрача таго, удзельнічаюць яны ў шматлікіх конкурсах па расліна- і жывёлаводстве. Сеюць лён і такім чынам збіраюць грошы, за якія купілі сабе пыласос, продзіж, шаткаўніцу, а таксама падарункі з нагоды Міжнароднага свята жанчын. КГВ у Збучы налічвае 48 асоб. Усе яны намераны адкрыць у сябе пазычальню хатняй пасуды і прадметаў хатнята ўжытку.

Больш 10 гадоў дзейнічае КГВ у Чыжах. За гэты перыяд чыжоўскія жанчыны арганізавалі ў сябе розныя курсы, як каўбасныя, кравецкія, курсы вышыўкі і г.д. Штогод арганізуюць яны вясковыя дзяцінцы, а таксама супольную гадоўлю куранят. Вясною вырошчваюць яны ў інспектах раннюю агародніну. Значныя даходы атрымліваюць за лён, які сеюць на зямельных угоддзях ПФЗ. За сабраныя грошы арганізавалі яны экскурсіі па краіне. КГВ у Чыжах налічвае больш 60 асоб.

Жанчыны з Кляшчэляў займаюцца перш за ўсё вырошчваннем малавядомай агародніны, супольнай гадоўляй куранят, а таксама ходзяць на курсы сельскагаспадарчай падрыхтоўкі. У апошнія гады больш увагі прысвяцілі яны развіццю жывёлагадоўлі. Кляшчэлеўскі жаночы гурток налічвае зараз 110 асоб.

КГВ у Навасадах найбольш увагі прысвячае агародніцтву і гадоўлі кароў. Зараз у Навасадах пастаянна ўзрастае колькасць малака, якое яны прадаюць дзяржаве.

Жанчыны з Патокі ўступілі ў КГВ нядаўна, але ўжо арганізавалі ў сябе курс пячэння і намераны арганізаваць яшчэ кравецкі курс. Жаночая арганізацыя налічвае тут 16 асоб. (ЦЯ)

---

# ВЫШЭЙШЫЯ ЦЭНЫ

У апошнім часе, а дакладней ад 4 красавіка г.г. абавязваюць новыя цэны пры скупцы быдла, цялят і авечак.

З новых цэннікаў вынікае, што павышэнне цэн ахоплівае перш за ўсё паўмясныя штукі, высакаякасныя, рацыянальна кормленыя.

Пры скупцы цялят на мяса, напрыклад, павышана на 2 зл. за кілаграм цана штук поўнамясных і мясных, вага якіх не меншая, чым 80 кг брута. Аднак ранейшая цана засталася актуальнай на цялят да 80 кг як у катэгорыі цялят поўнамясных вагой звыш 60 кг брута, так і за штукі поўнамясныя да 60 кг брута, а таксама за цялят маламясных.

На 2 зл. за кілаграм павышаны цэны на ялоўкі і маладыя поўнамясныя быкі, гатунак Іа, вагой звыш 400 кг нета. А цэны на ялоўкі і маладыя быкі класа Іб вагой звыш 300 кг нета і класа Іц вагой звыш 200 кг нета астаюцца як дагэтуль.

Пры скупе яловак і маладых мясных бычкоў павышана цана на 2 зл. за кілаграм толькі на штукі катэгорыі 2а і штукі вагой звыш 400 кг нета.

Новыя цэны абавязваюць пры скупцы некаторых катэгорый бугаёў. І так, за кілаграм вагі бугая экстра поўнамяснота, катэгорыя Э, вагой звыш 500 кг нета зараз плоцяць на 3 зл. больш, а за бугаёў і бычкоў поўнамясных катэгорыі Іа і вагой звыш 400 кг нета на 2 зл за кілаграм больш. Вышэйшая цана на 2 зл за кілаграм абавязвае таксама за бугаі і бычкі мясныя катэгорыі 2а, вага якіх вышэй 400 кг. У іншых катэгорыях быдла цэны застаюцца без змен.

Адначасова ў пастанове Рады Міністраў гаворыцца, што ад 4 красавіка павышаны цэны пры скупцы маладых авечак на мяса ў сярэднім на 2,5 зл за кілаграм жывой вагі. Ад гэтага ж тэрміну абавязваюць новыя, вышэйшыя ў сярэднім на 30 прац. цэны пры скупцы авечых шкурак.

Першыя водгукі вопытных гаспадароў, якія з алоўкам у руках усё пералічылі, сведчаць аб тым, што зараз пры зменены цэнніку панесены труд пры гадоўлі, прымяненне адпаведных метадаў адкорму, імкненне даставіць на пункт скупкі штукі экстра і поўнамяснай катэгорыі, аплочваецца, дае канкрэтныя карысці ў залатоўках. Значна палепшыліся ўмовы гадоўлі авечак. (ак)



 

# ТРЫБУНА чытачоў

## САМАГОНКА

■ 1.IV.72 г. міліцыянеры з Шудзялава (Сакольскі павет) знайшлі ў Браніслава Левандоўскага (58 год, Слоя) 4 літры самагонкі і камплектную самагонаварачную апаратуру.

■ 1.IV.72 г. міліцыянеры з Чыжоў (Гайнаўскі павет) знайшлі ў Ніны Урыновіч (ПГР Новаберазова) 2 літры самагонкі.

■ 7.IV.72 г. міліцыянеры з Чыжоў (Гайнаўскі павет) знайшлі ў Надзеі Плевы, д. Канстанціна (29 год, Курашава) 2 літры самагонкі.




## ПАСЫНКІ

Дзесь далёка ў свеце,
Дзе Арлянка шуміць,
Па дарозе ў Локніцу
Вёска Пасынкі ляжыць.

Два гады назад яшчэ
Было тут вельмі ціха.
З'явіўся новы бацюшка —
Завітала «ліха».

З тэтага часу бяда
Пасыпалася, як слёзы.
Разбілася грамада
На два варожыя «абозы».

Ужо на першыя каляды
У бацюшкі вокны шкліліся,
Людзі да зруху лянівыя
За чубы вазіліся.

Пачаліся суды
I не закончыліся.
Людзі з гэтай прычыны
У турму трапляліся.

Адны хвалілі бацюшку новага,
Другія яго ў царкву
не дапускалі.
Тут здаровага ў хворага
Мігам пераўтваралі.

Часта ў царкве
Свісты раздаваліся,
Ад праклёнаў сцены
Ужо павыгіналіся.

На царкве малюнкі
I плакат вісеў.
Ой, бацюшкі, бацюшкі —
Народ ачмурэў.

Пачалося з лаянкі,
Дайшло да нажоў,
У полымя пажару
Не адзін зайшоў.

Кіньце, людзі, сварку,
Кіньце гэты справы,
Бо канец ім бачу
Надта нецікавы.

*Валодзя Нецікавы*

**ЧЫТАЙЦЕ і РАСПАЎСЮДЖВАЙЦЕ „Ніву"!**

## ВЁСКА МЯНЯЕ АБЛІЧЧА

Едучы з Грэдалёў у Дыдулі, мы бачым пад лесам, направа ад дарогі, малую вёску. Гэта Алекшы. У Алекшах 15 гаспадарак. Вясной 1971 года вёска была электрыфікавана. Сёння тут ужо відаць на дахах тэлевізійныя антэны і чуваць на панадворках шум матацыклаў. У хатах ёсць пральныя машыны, электрычныя прасы і г.д. Моладзі тут мала, але тая, якая ёсць — мілая і прыкладная. Адны вучацца ў падставовай школе ў Дубяжыне, іншыя даязджаюць у Бельск у сярэднія школы. Пазычаюць кніжкі ў бібліятэцы ў Грэдалях. Найбольш актыўнымі чытачамі з'яўляюцца: Валя Васілюк, Яўгіння і Валя Грыгарук, Галіна, Марыся і Уладак Таранты, а таксама гаспадар Аляксандр Краўчук. Можна ў гэтым месцы працытаваць словы з беларускай песні: «Харашэ наш край, багацее народ, наша шчасце расце кожны дзень, кожны год».

П. О.




*Дарагое Сэрцайка!*

Я жыву на вёсцы і хутка мне будзе ўжо 22 гады. Вёска мая немалая, і таму моладзі тут вельмі многа. Калі ў вёсцы забава або «прыватка», усе хлопцы і дзяўчаты там сходзяцца і гуляюць. А мяне гэта зусім не цікавіць і на гэта большай увагі я не звяртаю. Мае сяброўкі, нават і маладзейшыя, зацікаўленыя хлопцамі, ходзяць з імі, маюць нарачоных, а мне ўсё гэта здаецца глупствам, проста мне іх цяжка зразумець.

Не ведаю сама, што са мною такое, ці прыдзе можа яшчэ такі час, калі і мяне зацікавяць хлопцы, а можа я хворая і трэба пайсці мне да лекара.

Парай, дарагое Сэрцайка, што-небудзь, а за параду буду табе вельмі ўдзячна.

*Нінка*
*з Бельскага павету*

Нінка! Зацікаўленні бываюць розныя. Шкада, што ты не пішаш, што цябе якраз цікавіць. Я не лічу не толькі хваробай, але нават чымсьці горшым тое, што цябе не цікавяць хлопцы, што ты не маеш нарачонага і т.п. Відаць, маеш іншыя зацікаўленні. Напэўна сустрэнеш яшчэ ў жыцці таго, каго пакахаеш, толькі яшчэ, відаць, не прыйшла тая хвіліна, яшчэ ты не сустрэла нікога, хто б табе прыпаў, як кажуць, да густу. Тады, Нінка, рабі тое, што цябе цікавіць, бо няма ніякага сэнсу раздумваць над забавамі ці хлопцамі, да якіх ты пакуль што абыякавая. Усё яшчэ перад табою.

*Сэрцайка*

## СПРАЎНА І ХУТКА

16 сакавіка 1972 года беларускі ліцэй у Гайнаўцы пачаў наводзіць вясеннія парадкі на школьным панадворку.

Вучні ахвотна прыступілі да гэтай працы. Усе класы мелі асобна вызначаныя месцы парадкавання. Яны працавалі на ўроках, вольных ад заняткаў. Капалі зямлю, падрыхтоўвалі агарод пад кветкі, граблі ў кучы смецце і палілі яго.

Найбольш працавітымі аказаліся дзяўчаты з класа Іа. Ім трэба было давесці да парадку абшар ад фізкультурнай залы да самай школы. Пасля ўрокаў яны з заўзятасцю ўзяліся за работу. Працавалі дружна. Праз 30 мінут панадворак свяціў чысцінёй, аж люба было глянуць.

*Вучаніца Агульнаадукацыйнага*
*ліцэя з беларускай мовай навучання*
*ў Гайнаўцы Надзя Казачук, кл І а*

## ЦІ ТАК ПАВІННА ВЫГЛЯДАЦЬ АПЕКА ВЕТЭРЫНАРНАЙ СЛУЖБЫ?

19.III.1972 г. ацялілася ў мяне карова і па слабасці не магла падняцца. Я спужалася, што можа нешта дрэннага здарыцца з каровай, і на другі дзень выклікала з ветэрынарнага пункта ў Міхалове лекара. Прыехалі двое. Рабілі укол у шыю. Лекар быў малады, нявопытны, не мог трапіць у жылу і пароў іголкай шыю каровы каля 50 разоў. Ад гэтых уколаў зрабілася на шыі маёй каровы вялікая скула: каля 40 см шырыні. Баюся, што лекар не трапіў у жылу і выпусціў лякарства за жылу. Скула гніе, карова не есць, цяля ў выніку адсутнасці корму на пяты дзень здохла. Баюся, што такі лёс чакае і карову.

За гэтыя паслугі заплаціла я 196,90 зл.

5.IV.1972 г. у Юшкавым Грудзе былі два лекары з таго самага пункта ў Міхалове. Муж мой прасіў іх, каб заехалі да нас і паглядзелі карову. Абяцалі, што заедуць. Чакалі мы іх да позняга вечара, не прыехалі. Лячу карову сама, паводле ўласных ведаў.

Ці так павінна выглядаць апека ветэрынарнай службы?

*Вольга Касацкая, Юшкаў Груд,*
*Беластоцкага павету*

## ВАРВАРЫ

10 лістапада 1963 г. вельмі ўрачыста было ў Гаркавічах (Сакольскі павет). У гэты дзень была ўстаноўлена мемарыяльная дошка на доме, у якім жыў вялікі дзеяч Грамады Павел Валошын. У той час у гэтай хаце жыў яшчэ старэйшы брат Паўла Валошына Аляксей з сынам Віктарам. Яны тады сказалі павятовым уладам: «Табліцу дык вы прыбілі харошую, але хата саломай накрыта». Тады павятовыя ўлады сказалі: «Мы вам прыдзем з дапамогай, дамо беспрацэнтную пазыку: накрыйце хату дахоўкай. Тры гады не будзеце плаціць, а па трох гадах ратамі сплаціце».

Пазыку Валошыны ўзялі, але калі прыйшоў тэрмін сплаты, пагневаліся: «мы думалі, што яны нам далі беззваротную пазыку».

На жаль, сваякі знакамітага Валошына не ўшанавалі яго памяці — табліцу сарвалі.

Калі дайшла аб гэтым вестка ў міліцыю ў Шудзялаве, брат Паўла Валошына — Аляксей ужо не жыў. Жылі ў гэтай хаце сын Аляксея Віктар з жонкай Надзеяй. Калі з'явіўся міліцыянер Юзэф Януш, у хаце Віктара не было, быў у Саколцы. Жонка Надзея адказала, што не ведае, дзе табліца. Але калі міліцыянер сказаў, што горш будзе, калі ён знойдзе яе, завяла на гару і паказала разбітую на тры кавалкі табліцу.

Сорам для ўсёй вёскі. Ды і варвар не пакараны.

*А. С.*



---

абучэнне. Дзеянне групы разлічана ў раёнах размяшчэння бандэраўцаў. Задача: разведка і кіраўніцтва дыверсійнай работай бандэраўцаў. Голас».

Радыёграма пайшла ў эфір, але думка зноў і зноў вярталася ў Скавіна, да выхаванцаў шпіёнскай школы. Як абясшкодзіць здраднікаў, ваўкалакаў, своечасова вырваць у іх ядавітае джала? І дапамагчы іншым, што, магчыма, яшчэ важней, зноў знайсці сябе, Радзіму? Узарваць знутры змяінае гняздо? Як?

А што, калі з дапамогай Молніі падсунуць берлінскаму госцю нашага чалавека? Няхай самі немцы і перакідваюць «агента» цераз лінію фронту.

На світанні мне прынеслі радыёграму — адказ:

«Голасу. Прапануйце Праўдзіваму, Молніі неадкладна накіраваць да нас свайго даверанага з агентаў, падрыхтаваных школай Скавіна для шпіянажу, і праз яго паведаміце:

а) падрабязна пра шпіёнаў у тыле і часцях Чырвонай Арміі,

б) аб падрыхтаваных агентах, хто яны, дзе жывуць, хто гаспадары кватэр. Пароль для пераходу «Дастаўце мяне да Кіеўскага». Паўлаў».

Поспех аперацыі ў многім залежаў ад Комахава. І Молнія, трэба аддаць яму перавагу, у Скавіне папрацаваў нямала. Ён з дазволу маёра ўсклаў на сябе ўсю непрыкметную, чорную канцылярскую работу. Начамі, калі берлінскі госць адпачываў, старанна праглядаў справы курсантаў. Раніцай, пасля снедання, у час чарговага даклада даваў лаканічныя дакладныя характарыстыкі тым, хто экзаменаваўся, разам з герам маёрам удакладняў канчатковыя пункты высадкі асобных агентаў. Ён правёў немалую работу для нас, шыфруючы на кавалачках папяроснай паперы імёны здраднікаў, іх будучыя маршруты, адрасы явачных кватэр. Гэтым данясеннем, фатаграфіямі курсантаў і іншымі каштоўнейшымі дакументамі мы забяспечылі «агента».

Комахаў выкарыстаўшы прыхільнасць берлінскага госця, пад заслону прапанаваў для адпраўкі ў тыл «свайго», асабліва даверанага чалавека. На думку Комахава, гэты чалавек мог бы ажыццявіць назіранне ўжо на савецкай зямлі за агентамі, якія выклікаюць падазрэнне. Падазрэнне ж у маёра — і тут не абышлося без уплыву Молніі — выклікалі ўсе. «Я і сабе, — сумна жартаваў маёр, — веру толькі раз у год». Маёр звярнуўся да Отмана. Праўдзівы, папярэджаны Аляксеем, пацвердзіў выданую характарыстыку асабліва даверанаму агенту: паважаны, кемлівы, спакойны, праверан на акцыях і карных экспедыцыях.

«Агент» аказаўся на вышыні і на экзамене, наладжаным маёрам. Яго адправілі на Усход з апошняй групай.

*(Працяг будзе)*




*«Winnetou», Малінніки.* У часе працы піць гарэлку забаронена. Такія ўчынкі караюцца.

*Ніна Гаўрылюк, Ягаднікі.* Вершы, вядома, дасылаць да нас не толькі можна, але і трэба. Тым больш такія, як «Вясна». Абавязкова надрукуем.

*У. Шклярук.* «Ода на салому» нам вельмі спадабалася. Яна таксама таворыць аб тым, што вы патрапіце пісаць вершы і што гэта не першы ваш верш. Чаму тады не дасылаеце іх нам?

## ПРЫЕМНАЯ СУСТРЭЧА

27 сакавіка г.г. у рамках акцыі сустрэч вучняў сярэдніх школ з прадстаўнікамі вышэйшых навучальных устаноў адбылася ў гайнаўскім ліцэі № 10 сустрэча з прадстаўніком Вышэйшай інжынерскай школы ў Беластоку. Была гутарка аб умовах прыняцця ў гэтую школу, аб навучанні ў ёй, аб штодзённым жыцці студэнтаў і аб магчымасцях пазнейшай працы. Сустрэчы такія моладзь нашай школы вітае з прыемнасцю. Яны спрыяюць лепшаму знаёмству з дадзенай навучальнай установай і дазваляюць больш трапна выбраць напрамак вучобы.

*Л. Ш.*

# КІНО

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Кляшчэлі**

„Manewry Dniepr" (radz.), 2—3. „Wraki" (polski), 4—5. „Kochana ciocia Sarika" (węgierski), 6—7.

**Нарва**

„Cudowna lampa Alladyna" (franc.), „Gott mit uns" (jugosł.), 3—7.

**Чыжы**

„Cyrk bez granic" (rumuński), „Własne zdanie" (bułg.), 3—7.

**Дубічы Царкоўныя**

„Rezydent wywiadu" (radz.), „Tagebuch" (polski), 3—7.

**Арэшкава**

„Nad jeziorem" (radz.), 6—7.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**

„Pierścień księżnej Anny" (polski), „Unkas — ostatni Mohikanin" (rumuński), 3—7.

**Орля**

„Próba terroru" (USA), „Zielone smugi" (radz.), 3—7.

**Райск**

„Kłopotliwy gość" (polski), „Tima Rinnelt porwany" (NRD), 3—7.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**

„Jezioro starej sowy" (NRD), 2—3. „Cena odwagi" (bułg.), 4—5. „Lala" (włoski), 6—7.

**Янаў**

„Morderca jest w domu" (węgierski), 3—7.

### СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ

**Нурэц**

„Za frontem" (radz.), 2—3. „Milion lat przed naszą erą" (angl.), 4—5. „Kobieta wąż" (angl.), 6—7.

**Мельнік**

„Kłopoty z miłością" (NRD), 2—3. „Uzurpatorzy" (węgierski), 4—5. „Lala" (włoski), 6—7.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Сухаволя**

„Mój kochany Robinson" (NRD), „Wydra pana Grahama" (angl.), 3—7.

**Новы Двор**

„Na torze czeka morderca" (czeski), „Romantyczni" (polski), 3—7.




Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł, kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. **Zamówienia ze zleceniem** wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO 1-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23.

BZGraf. Nakład 6916 T-3

